# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (248) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 12 ЛІСТАПАДА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


# КАВАЛІ СВАЙГО ШЧАСЦЯ

Адбылося ўжо тры ваяводскія з'езды Саюза сельскай моладзі ў Беластоку. Іх удзельніку прыходзіць на думку адна рэфлексія: арганізацыя вясковай моладзі здабыла давер і пашану, сталася аўтарытэтнай і больш магутнай. У час І з'езду ССМ на Беласточчыне налічваў толькі 4000 членаў..., а ў час ІІІ з'езду 25254 членаў, аб'яднаных у 1182 гуртках. Можна меркаваць, што на 5-годдзе свайго існавання (у студзені) ССМ павялічыцца на многа больш. Гэтая дынаміка лікавага ўзросту ССМ сведчыць аб тым, што ідэйная мэтанакіраванасць арганізацыі згодная з імкненнямі ўсёй вясковай моладзі, яе запатрабаваннямі на штодзень, на будучыню і бачанымі перспектывамі.

І сакратар Ваяводскага Камітэта ПАРП тав. Аркадзь Ляшэвіч гаварыў да дэлегатаў З'езду, што ў вёсках Беласточчыны ў канцы бягучай 5-годкі павінна знайсціся 4,5 тыс. трактараў з камплектамі іншых неабходных машын. Гэта патрабуе шматлікай арміі высокакваліфікаваных трактарыстаў. Робім наступленне таксама на незагаспадараваныя сенажаці. Перш за ўсё нялёгкай справай з'ўляецца правядзенне меліярацыі на плошчы некалькі тысяч гектараў. — Неабходнай тут будзе канкрэтная дапамога моладзі...

Амаль праз усю творчую частку дыскусіі верх брала думка ў напрамку барацьбы за лепшыя матэрыяльныя ўмовы, за павышэнне ўраджайнасці палёў, развіццё жывёлагадоўлі, уводжанне рэнтабельных культурараслін. Стымулам канкрэтнасці дзейнасці ССМ у гэтым напрамку з'яўляюцца калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Гэта пры іх дапамозе пранікае зараз шырокім промнем святло сельскагаспадарчай асветы да моладзі, а лічу важнейшым яшчэ — святло сельскагаспадарчай практыкі. У ваяводстве маецца каля тысячы маладзёжных калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі пры гуртках ССМ. Палова з гэтых калектываў у бягучым годзе займалася вырошчваннем кукурузы на вопытных палетках плошчай у 280 га. Нялёгка апрацаваць статыстычныя, што робяць у сябе калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі... У час перапынку на З'ездзе я звярнуўся да некалькіх дэлегатаў, каб расказалі больш падрабязна аб працы сваіх гурткоў ССМ. Вось (па чарзе) весткі з некалькіх гурткоў. Бенедыкт Парадовіч, дэлегат гуртка ССМ у вёсцы Астрынка, Сакольскі павет:

— Пры нашым гуртку маем калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ІІ-ой ступені. У мінулым годзе на сваіх палетках мы садзілі бульбу, сеялі кукурузу і вялі вопытныя палеткі на сенажацях. Гэта цікавіла не толькі нас, але і нашых бацькоў...

— А ў бягучым годзе?

— ...займаемся гадоўляй свінаматак, мы купілі іх 4 штукі. Паводле ацэнкі камісіі найлепш гадуе сваю свінаматку сябра Чэслаў Сенька.

Лена Кухарэвіч, дэлегатка з вёскі Горныя Малявічы, Сакольскі павет:

— Наш гурток Саюза сельскай моладзі налічвае 18 членаў (у гэтым 12 дзяўчат). Маем калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ІІІ ступені — належаць усе члены ССМ і яшчэ 6 членаў сельскагаспадарчага гуртка, старэйшыя ўжо людзі. Вядзем конкурсную гадоўлю цялят (10 штук). Першае месца ў нас у гадоўлі заняў Эдуард Стшалкоўскі. Маем гурток гаспадынь. Былі ў нас курсы кройкі і шыцця, гатавання і пячэння і фруктовых вырабаў. Усе дзяўчаты прымалі ўдзел у гэтых курсах.

(Працяг на стар.5)



У зале III з'езду Саюза сельскай моладзі. На першым плане дэлегацыя Сакольшчыны



М. С. ХРУШЧОЎ — І САКРАТАР ЦК КПСС.

# Пабудова камуністычнага грамадства — практычным заданнем

31 кастрычніка г. г. закончыў сваю працу XXII з'езд КПСС. З'езд адзінадушна выбраў цэнтральныя партыйныя органы, адзінагалосна прыняў Рэзалюцыю XXII з'езда па справаздачы ЦККПСС, Праграму КПСС і Устаў КПСС.

ЦК КПСС, выбраны XXII з'ездам, складаецца з 175 членаў. Кандыдатаў у члены ЦК КПСС выбрана 155. Новая Рэвізійная Камісія КПСС складаецца з 65 членаў.

**Прыняўшы новую Праграму, — сказаў у заключным слове М. С. Хрушчоў, — XXII з'езд перад усім светам абвясціў, што народы Савецкага Саюза на чале з Камуністычнай партыяй, кіруючыся вучэннем марксізма - ленінізма, высока падымаюць сцяг барацьбы за пабудову камуністычнага грамадства ў нашай краіне. Пабудова камуністычнага грамадства стала практычным заданнем партыі і народа.**

Пленум новага Цэнтральнага Камітэта КПСС выбраў Прэзідыум ЦК КПСС у наступным складзе:

Члены Прэзідыума: таварышы **БРЭЖНЕЎ Л. І., ВАРАНАЎ Г. І., КАЗЛОЎ Ф. Р., КАСЫГІН А. М., КУУСІНЕН О. В., МІКАЯН А. І., ПАДГОРНЫ М. В., ПАЛЯНСКІ Д. С., СУСЛАЎ М. А., ХРУШЧОЎ М. С., ШВЕРНІК М. М.**

Кандыдаты ў члены Прэзідыума: таварышы **ГРЫШЫН В. В., РАШЫДАЎ Ш. Р., МАЗУРАЎ К. Т., МЖАВАНАДЗЕ В. П., ШЧАРБІЦКІ В. В.**

Пленум выбраў Сакратарыят ЦК КПСС у наступным складзе: таварыш **ХРУШЧОЎ М. С. — Першы сакратар ЦК КПСС**, таварышы **КАЗЛОЎ Ф. Р., ДЗЁМІЧАЎ П. Н., ІЛЬІЧОЎ Л. Ф., КУУСІНЕН О. В., ПАНАМАРОЎ Б. Н., СПІРЫДОНАЎ І. В., СУСЛАЎ М. А., ШАЛЕПІН А. Н.**

Пленум выбраў Старшынёй Камітэта Партыйнага Кантролю пры ЦК КПСС таварыша **ШВЕРНІКА М. М.**, першым намеснікам Старшыні Камітэта Партыйнага Кантролю — таварыша **СЕРДЗЮКА З. Т.**

31 кастрычніка адбылося пасяджэнне Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КПСС. Цэнтральная Рэвізійная Камісія выбрала старшынёй Камісіі таварыш **МУРАЎЁВУ Н. А.**

# АБ СУХАВОЛІ З АПТЫМІЗМАМ

Прыўзняты настрой, з якім я пакідаў нядаўна памяшканне грамадскай рады ў Сухаволі, быў поўнасцю апраўданы. У час размовы з гаспадарамі грамады выявіліся цікавыя факты, з якімі хацелася б падзяліцца на старонках «Нівы».

Сухаволя атрымала новую агранамоўку, якой недахоп да гэтае пары вельмі адчуваўся. Агранамоўка будзе абслугоўваць таксама вёскі ў грамадскіх радах Новая Хадароўка і Вулька. Мясцоваму аграному, Галене Дзеніс, давядзецца шмат папрацаваць. Тут толькі ўзнікаюць нечаканыя цяжкасці з транспартам; трэба ж будзе наведваць адлеглыя адна ад другой вёскі ў гэтых трох грамадах, а Г. Дзеніс не мае ніякага ўласнага сродка транспарту.

Сяляне ў гэтых трох грамадах шмат увагі ўдзяляюць вырошчванню тытуню. У ГРН Сухаволя, напрыклад, тытунь вырошчваецца на плошчы ў 34 га. Добрай традыцыяй стала тут ужо вырошчванне цукровых буракоў — 10 га. Калі разыходзіцца аб лён, дык ён займае 20 га. Яго кантрактуюць гаспадары на валакно і салому. Рэпрадукцыйнае збожжа ў вёсках Сухавольскай грамады займае плошчу ў 9,5 га. Кантрактацыя паасобных культур выдатна ўзняла матэрыяльны ўзровень жыцця сялян, што ў сваю чаргу аказала дабратворны ўплыў на належнае выконванне імі абавязкаў перад дзяржавай.

Жыхары Сухаволі, а таксама сяляне паасобных вёсак дбаюць пра азеляненне сваіх вуліц і дарог. У бягучым годзе ГРН у Сухаволі атрымала ад Павятовага аддзела сельскай гаспадаркі ў Саколцы 1200 штук клёнаў, таполяў і ясеняў. Гэтыя дрэўцы цешыліся сярод тутэйшага грамадства незвычайным попытам. Прыгадаем, што, напрыклад, школа ў Сухаволі пасадзіла на сваёй плошчы і навакольных вуліцах 300 дрэўцаў. Пра азеляненне сваёй тэрыторыі задбалі таксама працаўнікі мясцовага ільноапрацоўчага прадпрыемства, а таксама жанчыны, якія працуюць у сухавольскай кравецкай спулдзельні. Ёсць яшчэ і іншыя прыклады якія сведчаць аб руплівасці сухавольцаў пра знешні выгляд іх асады. На вуліцы Фабрычнай бачым акуратна ўложаны брук і кравэнжнікі. Нефаховыя работы, у прыватнасці, пастаўка будаўлянага матэрыялу, праводзіліся тут агульнымі намаганнямі жыхароў асады. На Беластоцкай вуліцы на адрэзку ў 400 метраў былі ўложаны ходнікавыя плыты. На Новазялёнай вуліцы таксама праводзяцца падобныя работы.

«Што кажух, то не вата...» — справядліва кажа вядомая беларуская прыказка. А вырабам высакаякасных кажухоў якраз і славіцца Сухаволя. Тут гэтым рамяством займаецца 30 спецыялістаў. Варта адзначыць, што сыравіну да

(Працяг на стар. 4)

# КРАІНА СВЯШЧЭННЫХ КАРОЎ

Індыя вельмі багатая быдлам. Яго ў гэтай краіне налічваецца больш як 200 мільёнаў, гэта значыць чацвёртая частка ўсяго пагалоўя быдла на зямлі.

Магло б выдавацца, што насельніцтва Індыі найбольш спажывае малака і з'яўляецца самым здаровым. Аднак там не так. Прадуктыўнасць кароў Індыі самая нізкая ў свеце.

Калі ў Даніі малака атрымоўваюць больш 600 літраў на душу насельніцтва, а ў Аўстрыі блізка 160 літраў, — у Індыі толькі 36. Свяшчэнныя каровы, паважаныя ўсімі індыйцамі ў вёсках, на прасёлачных дарогах, у сучасных дзелавых кварталах вялікіх гарадоў, дзе яны спакойна бродзяць сярод банкоўскіх будынкаў і аўтобусаў не зварочваючы ўвагі на рух XX стагоддзя. Захочацца карове адпачыць у поўдзень на скрыжаванні вуліц, ніхто не асмеліцца памяшаць. Рух альбо астанаўліваецца, альбо яго пераводзяць на іншую вуліцу.

Калі свяшчэнная карова прагаладаецца ў вялікім горадзе, яна не накіроўваецца доўгім шляхам да бліжэйшага луга, а скарыстае з першай спатканай зялёнай крамы. Таргавец не праганяе карову з праклёнамі, —што напэўна зрабіў бы, каб такім парушыцелем быў галодны чалавек, але ён дзякуе багам затое, што яму аказана вялікі гонар і што ён можа ўнесці сваю лепту для дабра свяшчэннай жывёліны.

Калі ўжо малака індыйцы атрымоўваюць нямнога, то пры 200 мільёнах кароў не павінна быць недахопу ва ўгнаенне. Але гэта ўсё не так. Каровіна ляпёшка ў жыцці індыйскага селяніна адыгрывае вялікую ролю. Праўда, не ў якасці ўгнаення для яго палёў.

Каровіны ляпёшкі прылепліваюць адна каля другой на ўсіх чатырох вонкавых сценах сялянскіх хат. Высахшыя ляпёшкі адпадаюць, альбо іх здымаюць і акуратна перахоўваюць у хатах.

90 працэнтаў каровіных ляпёшак выкарыстоўваецца на аграванне і на асвятленне дамоў. Гэта вугаль і электрычнасць індыйскага селяніна. Ляпёшкі гараць у маленькіх гліняных печках, на якіх індыйцы вараць сабе ежу. Халоднымі зімовымі начамі цяпло іх абагравае. Расцёртая каровіна ляпёшка, замяняецца ў меднай місцы на тое невялікае полымя, якое служыць на вёсцы за асвятленне. Селянін проста не можа пазволіць сабе пераносіць каштоўнае паліва на поле.

У глебе не хапае каштоўнага ўгнаення. Каб у селяніна былі вугаль, дровы і электрычны свет, ён мог бы выкарыстоўваць каровіны ляпёшкі ў якасці ўгнаення. Пакуль што з усяго гэтага Індыя даць сялянам не мае магчымасці. Значыць, неабходны замен натуральнага прадукта ў мінеральныя ўгнаенні. Вось таму адным з першых дзяржаўных заводаў Індыі і з'яўляецца Сіндра, буйнейшае ў Азіі прадпрыемства па прадукцыі ўгнаенняў.

У штодзённае «меню» індустрыяльнага гіганта ўваходзіць 4.500 тон вугалю, коксу і гіпсу. Велікан не лянівы, штодзённа ён дае 1000 тон сульфата амонія і ў якасці пабочных прадуктаў — газ, аманяк, глінку, попел.

Сіндры прадукуе 300 тысяч тон мінеральных угнаенняў у год. Вядома, гэта яшчэ мала. Аднак дзякуючы ўгнаенням завода Сіндры ў Індыі прадукуецца 3,5 мільёна тон больш, чым харчавых прадуктаў. Што адбываецца з прыносячым багаты ўраджай парашком, як ён выходзіць з фабрыкі?

Яго прадаюць у раёне Сіндры кааператывам і аддзельным сялянам. Тона каштуе 345 рупій. Для селяніна гэта вельмі высокая цана, прыкладна столькі, колькі ён запрацуе за два гады. Для таго, каб ад мінеральных угнаенняў не адказваліся з-за высокай цаны ўрад дае шырокія крэдыты. Большую частку мінеральных угнаенняў з Сіндры не прадаюць, а аддаюць. Ураднікі і аграномы дэманструюць у вёсках чарадзейскае дзейнічанне сульфата амонія. Яны робяць сапраўды вялікую справу, змагаючыся супроць цемнаты, адсталасці і забабонаў.

«Чаго гэты юнак ад нас хоча»? Вось такая першая рэакцыя сялян. Недавер сядзіць яшчэ вельмі глыбока. Не бянтэжыцца ўраднік, прадаўжае расхвальваць новы парашок.

— Хто знае з чаго гэты парашок зроблены? Напэўна там сядзіць дэман, якім нацягнем на сябе гнеў багоў. Нашы плады згінуць, альбо будуць атручаны, калі мы пасыплем парашком зямлю. Пачынаюцца дні бясконцых гарачых спрэчак. Нарэшце ўрадніку ўдаецца пераканаць найбольш прагрэсіўнага і свядомага селяніна прымяніць мінеральнае ўгнаенне. Калі сяляне ўбачаць высокі ўраджай, прыгожыя плады, недавер прападае, і людзі пачынаюць дапамінацца цудоўнага парашка.

Сульфат амонія супроць каровіных ляпёшак — гэта больш чым застасаванне хімічных сродкаў у сельскую гаспадарку, гэта рэвалюцыя.

# ГЛУШЭЦ

Глушэц — адна з характэрных птушак хвойных лясоў, асабліва зімою. Глушэц - самец вялікая птушка, даўжынёю ад 80 да 110 см. Самка больш як у два разы меншая ад самца.

У час такавання глушцы збіраюцца разам у акрэсленым участку лесу (гэтае месца займаюць праз многа год) і раніцай пачынаюць спяваць, пачаткова на дрэвах, а пасля на зямлі. Тут паміж самцамі адбываюцца вялікія бітвы. У час другой часткі песні глушцы нічога не чуюць. На гэтай асаблівасці абгрунтавана паляванне ў час такавання. Паляўнічыя падкрадваюцца да глушцоў зусім блізка.

На здымку: глушэц спявае песню любві.

# УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

■ У Кітаі амаль 50 нацыянальных меншасцей. Разам налічваюць яны блізка 35 мільёнаў чалавек. У самай толькі правінцыі Юннан жыве 20 розных народнасцей, якія налічваюць 6 мільёнаў чалавек, што становіць 30 працэнтаў насельніцтва гэтай правінцыі.

■ У Францыі на набярэжжы Атлантычнага акіяна ў хуткім часе распачнецца будова гідраэлектрастанцыі, якая будзе выкарыстоўваць энергіі марскіх прыліваў і адліваў. Паводле ўступных падлікаў электрастанцыя на працягу года дасць 567 мільёнаў кілаватгадзін.

■ У Маскве ў 1937 годзе было 12 паслоў і 16 пасланнікаў, у 1947 годзе было 21 пасол і 18 пасланнікаў, у 1957 годзе было 45 паслоў і 2 пасланнікі, у 1961 годзе 50 паслоў і 1 пасланнік.

■ Амерыканскія вучоныя паведамляюць, што ад пачатку нашага стагоддзя Паўночны геаграфічны полюс перасоўваецца ў напрамку Грэнландыі з хуткасцю амаль 20 см у год.

■ Улады Суматры недазваляюць жаніцьбы паміж непісьменнымі. Мясцовае насельніцтва праяўляе неахвоту да вучобы, а жэніцца ў вельмі маладых гадах. Улады маюць надзею, што такім метадам удасца хуткімі тэмпамі ліквідаваць непісьменнасць.

■ Сярод краін народнай дэмакратыі па колькасці вышэйшых школ першае месца займае Румынія. Існуе там 95 вышэйшых школ у якіх вучыцца 67,8 тыс. студэнтаў. Атрымоўваецца — 37 студэнтаў на 10 тысяч жыхароў.

Народная медыцына

# РУЖА САБАЧАЯ

Беларуская назва: шыпшына; руская — дикая роза, шиповник.

Агульнавядомая расліна — куст, які мае шмат відаў і разнавіднасцей; у залежнасці ад гэтага і розныя плады.

Збіраюць: лісце ў час цвіцення, а спелыя плады ў познюю восень.

У народнай медыцыне прымяняюць чай з шыпшыны пры такіх цяжкіх хваробах, як шкарлятына, тыф, запаленне нырак, пры хваробах кішэчніка, печані, страўніка, пры туберкулёзе, а таксама пры родах. У гэтых, як і ў іншых выпадках, народ, які нічога не ведаў раней аб вітамінах, выкарыстоўваў лекавыя якасці гэтай расліны (вітамін C).

Плады шыпшыны разам з зернямі напарваюць у вадзе (40—50 пладоў на літр вады), і, захоўваючы пэўную дыету, прымаюць пры язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі, нават пры кровацёках. Таксама пры катары страўніка з паніжанай секрэцыяй, пры розных формах малакроўя (уключаючы і малакроўе ў фізічна дрэнна развітых дзяўчат і юнакоў, а таксама малакроўе са злаякасным ухілам).

Водны настой з шыпшыны прымаюць пры хваробах нырак, мачавога пузыра і печані і асабліва пры каменных хваробах гэтых органаў, а таксама пры ўсіх хваробах печані і жоўчных шляхоў.

Адвар з карэння шыпшыны лічыцца ў народзе верным сродкам, які растварае камяні ў арганізме або расшчапляе іх на асобныя пясчынкі, а таксама знішчае малярыйных паразітаў. Бяруць дзве сталовыя лыжкі дробна парэзанага карэння на 200 грамаў вады і кіпяцяць 15 мінут.

П'юць гэты адвар тры разы на дзень па адной шклянцы штодзённа на працягу тыдня і болей.

Плады шыпшыны захоўваюць добра прасушанымі, у закрытых карбках, правяраючы, каб не зацвілі. Сушаць у цяню або на сонцы (але не ў печы).

# АЎТАМАТНЫ МАРЭАГРАФ

Ён рэгіструе змены ўзроўня мора і тэмпературу вады. Прыбор устанаўліваецца на глыбіні да 100 метраў, і можа ён працаваць беспераппынна на працягу 32 сутак.






Нашу Марысю пачаў наведваць малады чалавек з Беластока. Мяне, як матку, гэта стала непакоіць, хаця я для дачкі жадаю самага шчаслівага замужжу. Дарэчы, Марыся не мае яшчэ нават 18 год. Ён прыгожы і ветлівы.

Нядаўна я даведалася ў Беластоку, што ён жанаты і забараніла яму наведваць наш дом. Але Владэк пачаў тлумачыць мне і дочцы, што ён з жонкай разыдзецца, што хоча ажаніцца толькі і выключна з вясковай дзяўчынай.

— Калі вы не жадаеце, каб я быў вашай дачкі мужам, — кажа ён, — я вымушаны буду пазнаёміцца з іншай дзяўчынай, бо так ці інакш, я са сваёй жонкай не буду жыць.

Каб было вядома, што ён не ашукае, не забараняла б прыязджаць да нас. Нядрэнны ён, здаецца, хлапец. Я была б задаволена, каб наша Марыся жыла ў горадзе.

Што рабіць, як паступіць, я з Марысяй ніяк не можам рассудзіць. Падкажыце нам, калі ласка.

К. З.
Беластоцкі павет

**На маю думку, гэта мужчына несур'ёзны і несумленны. Хаця б таму, што ён сам не прызнаўся, што жанаты. Ды ён, як відаць з лісту, жыве з жонкай. Владка трэба гнаць з хаты, хай не марочыць галавы маладой дзяўчыне.**

**СЭРЦАЙКА**

